# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1538) ГОД XXX БЕЛАСТОК 3 ЛІСТАПАДА 1985 г. ЦАНА 10 зл.




Гайнаўка. Могільнік савецкіх воінаў. Фота Віктара Рудчыка.

## ГАСПАДАРСКАЯ АБМЯРКОЎКА

Занальная нарада, якая адбылася 1 кастрычніка г.г. у Беластоку, усю ўвагу сканцэнтравала на гаспадарцы. Як ва ўступным дакладзе беластоцкага ваяводы К. Дуная, так і ў шматлікіх выступленнях удзельнікаў нарады былі закрануты тыя праблемы, якія зганяюць сон з вачэй палітычным і гаспадарчым дзеячам. Зганем пра тыя, што найбольш датычаць Беласточчыны.

І так, хоць у нашым ваяводстве ўся вытворчасць павялічылася на 8 працэнтаў і пераўзышла добры 1978 год на 15 прац., то ўсё ж шмат залеглага трэба яшчэ адрабляць. Гэты павольны поступ наперад ідзе з вялікай натугай і не толькі ў нашым ваяводстве. Віцэ-прэм'ер Я. Абадоўскі заўважыў, што не ўдалося паўстрымаць нарастання розніцы паміж ростам даходаў насельніцтва і павелічэннем колькасці тавараў і паслуг. За першыя 8 месяцаў бягучага года заработная плата павялічылася аж на 25 прац., а тавараў і паслуг прыбыло толькі на 15 прац. У краіне цяпер маем каля 200 мільярдаў злотых „інфляцыйнай навісі", г.зн. людзі маюць настолькі больш грошай, чым тавараў і паслуг у краіне. Цешыць, аднак, тое, што найбольшым попытам карыстаюцца рэчы трывалага ўжытку: будынкі, розныя машыны, хатняе абсталяванне. Таму неабходна накіроўваць прамысловасць на яго задавальненне: выпускаць болей будаўнічых матэрыялаў, рознай тэхнікі (перш за ўсё разнастайных сельскагаспадарчых машын), а таксама ўсё тое, што аблягчае штодзённае жыццё працоўных горада і вёскі). Але адначасова неабходна рабіць усё, каб наша прамысловасць не была такой як дагэтуль матэрыялаёмкай і энергаёмкай, гэта значыць, каб выпускала вырабы коштам меншай затраты сыравіны і энергіі. Проста неабходна працаваць больш удумліва, ашчадна ва ўсім ды з няспынным

(Працяг на стар. 4)

**ЛІСТ З МАСКВЫ**

## ЛЮБІМ МУЗЫКУ МАРЛЕЯ

І так мы ўжо ў Маскве амаль месяц. Першыя дні мы ліхаманкава бегалі па горадзе, глядзелі. Вярталіся позна ўвечары, чуць жывыя, а да нас „валіліся" госці. Мы частавалі яшчэ беластоцкай гарбатай ці „чаем высшего сорта" і знаёміліся. Задавалі пытанні, часам неабдуманыя, але заўсёды канкрэтныя.

— А ў вас на Кубе ёсць малпы?

— Няма.

— А жабы?

— Ну, ёсць. І вельмі прыгожа спяваюць.

— А кракадзілы?..

Мы бліжэй пазнаёміліся з многімі чужаземцамі, якіх сустракалі на кухні, у ліфце, на калідоры, ці на ўроках у Інстытуце імя А. С. Пушкіна.

*

Кожны чалавек, які завітае ў нашы „апартаменты", трапляе ў мой зялёны сшытак. Першы — гэта Шопон з Індыі, малады медык. Усяго трэці год у Маскве, а гаворыць па-руску амаль як радавіты масквіч. Спадабалася яму Эва, ды што зробіш — ёсць у яе свой хлопец у Беластоку. „Сяброўства — так, нічога болей", — рашуча паставіла справу дзяўчына. І Шопон стаў нашым сябрам, амаль не братам.

*

Заходзяць да нас людзі. Проста стукаюць у дзверы. „Мы з Перу, з Малі, з Беніка, з Англіі..." Зялёны сшытак запаўняецца. Пішуць на сваіх мовах — бенгальскімі рагізулькамі, па-іс-

(Працяг на стар. 6)




## „НІВА" — ЯКАЯ ПАВІННА БЫЦЬ?

„Ніва" — гэта сялянскі тыднёвік, аб чым сведчаць змешчаныя ў ім артыкулы, вершы, а нават афарызмы. Мова „Нівы" не стыль простыя, часта надта простыя: „ўлез у ваду", „сунулі ў лапу". Некаторыя аўтары не падбіраюць слоў, якія мелі б уплыў на эстэтыку выказвання, на прыгажосць фразы, на яе плыннасць. Апрача таго, некаторыя не ўмеюць назваць органы свайго цела інакш, як словам вульгарным і непрыстойным, лічачы, што толькі такое з'яўляецца беларускім словам: „...уляпіць па ср...", „смярдзіць як са ср...", „мая баба", „вылез на вуліцу". Супраць гэтых вульгарызмаў няраз выступалі чытачы. Вульгарнасць не павінна мець месца ў тыднёвіку, які называецца грамадска-культурным.

Змест „Нівы" ў вялікай частцы ўспамінальны. Успаміны аб ваенных падзеях, партызанскіх і асабістых, аб мінулых часах. Ёсць і маралізатарства наконт беларускай мовы і беларускасці — той не хоча па-беларуску гаварыць, іншы не прызнаецца да нацыі, а яшчэ іншы гаворыць, што беларуская мова непрыгожая і непрыдатная. Паяўляюцца новыя аўтары і зноў пішуць на гэтую тэму і так — кругом. Праўду кажучы, яшчэ я не бачыў і не чытаў такога часопіса, які дрэнна пісаў бы аб мове, на якой друкуецца, і аб народзе, да якога кіруе свае словы. З рукой на сэрцы гавару, што зместу гэтых артыкулаў я не адважыўся нікому расказаць. І ніколі нікому не перакладу на вядомыя мне мовы. Лічу гэтакія артыкулы абразай мовы і народа.

Сучасная літаратурная беларуская мова не горшая ад іншых. Відаць, аднак, што часта змешваюць яе з рэгіянальнымі гаворкамі. Усе гэтыя гаворкі маюць абмежаваны характар. Таму, можа, некаторыя і не хочуць на іх гаварыць. Я не супраць гаворак і фальклору, якія трэба культываваць як спадчыну народа. Гаворкі мелі ўплыў на стварэнне літаратурнай мовы, і гэтая літаратурная мова спалучае ўвесь народ. Гаворкі, песні, вопратку трэба берагчы, збіраць у зборнікі, у музеі.

Які настрой узбуджае „Ніва"? Сумны, вельмі сумны. Артыкулы пра вайну, акупацыю не могуць быць вясёлымі. Прытым аўтары пачалі вяртацца да ўспамінаў. Гэта азнака старэння аўтараў. Праяўляецца гэта ва ўсіх

(Працяг на стар. 4)

# НА МЯЖЫ

## АБ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ І ДЗЯРЖАЎНАСЦІ (X)

Два гады таму назад у Гайнаўцы ў часе нашага фэстына я знаходзіўся сярод гайнаўскіх беларускіх дзеячоў. Адна з прысутных паняў, крышку выпіўшы, набралася адвагі і панесла на палякаў, гаворачы, што яе дачка — выпускніца Беларускага ліцэя — не здала экзаменаў у вышэйшую ўстанову толькі таму, што напісала ў анкеце, што яна беларуска. — Вось бачыце, — гаварыла гэтая пані, — якія палякі нацыяналісты? Калі б дзіця было ўхітрылася і напісала — polka, было б студэнтам, а раз яно напісала — białorusinka, прапала на экзамене. Я пачаў бараніць, зрэшты, невядомых мне экзаменатараў, гаворачы, што такіх крытэрыяў у часе экзаменаў ніхто не трымаецца, што лічацца толькі веды і г.д. Жанчына, аднак, упіралася пры сваім. Так здарылася, што размове прыслухоўваўся дырэктар Беларускага ліцэя Аляксандр Іванюк, які ўрэшце сказаў:

— Пані, — тут назваў прозвішча гэтай жанчыны, — вы гаворыце няпраўду. Якраз ваша дачка была рэдкім выключэннем сярод нашых абсальвентаў. Амаль усе яны напісалі ў анкетах, што яны беларусы, а ваша дачка знайшлася сярод тых рэдкіх, якія напісалі, што яны палякі. Значыць, яе не прынялі ў вышэйшую ўстанову не таму, што яна беларуска, бо яна гэты факт укрыла, а толькі таму, што яна, мабыць, мала ведала.

Жанчына, што называецца, „спякла рака“, крэнту-вэнту, пачала яшчэ нешта гаварыць, але па сутнасці гаварыць не было аб чым, бо сітуацыя яе поўнасцю кампраметавала. Вось як яно бывае. Віну за свае няведы, за свой прымітывізм, за сваю беспрынцыповасць звальваем, у даным выпадку, на Богу духам невіноўных чужых. Нядаўна я даведаўся, што гэтая пані ізноў часта вяртаецца да гэтай тэмы, з тым аднак, што змяніла сённня папярэднюю версію і апавядае ўсім, што яе дачка сапраўды напісала ў сваёй анкеце, што яна полька, але тыя, што яе экзаменавалі, даведаліся аб тым, што яна беларуска, і „яе знішчылі“. Я, зразумела, маючы дачыненне з уступнымі экзаменамі ў Варшаўскі універсітэт на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў і ўдзельнічаючы ў прыёмных камісіях, у якіх прынамсі 80 працэнтаў палякаў, ніколі не паверу ў такую лухту. Вядома, добра, што бяруцца ў часе экзамена пад увагу веды, а не нацыянальнае паходжанне. І не толькі ў нас. З прыемнасцю, для прыкладу, я даведаўся з газеты, у якой было напісана, што выпускнік гайнаўскага беларускага ліцэя Сельвясюк найлепш з усіх кандыдатаў здаў уступны экзамен на гісторыю мастацтва. Наколькі мне вядома, Сельвясюк не скрыў у сваіх анкетах свайго беларускага радаводу.

І таму, калі б я пачуў ад некага, што яго сын або дачка, хаця яны і напісалі ў анкетах, што яны палякі, не здалі экзамена таму, што „ўрэдныя палякі“ даведаліся, што яны ў сапраўднасці беларусы і спляжылі іх у часе экзаменаў, дык хаця ў такое не веру, адкажу: „Добра зрабілі!“ А добра зрабілі б, не прапускаючы такога ў вышэйшую ўстанову таму, што студэнт, як бы ні было, будучы інтэлігентам, павінен перш за ўсё характарызавацца прынамсі адной маральнай якасцю — элементарнай верагоднасцю. Чалавек, які ілжэ ў такой справе, як нацыянальнасць і родная мова, з'яўляецца звычайным ілгуном, якому не павінны верыць ні

(Працяг на стар. 5)

# Весткі з Беларусі

## ПАЛІКЛІНІКА Ў САЎГАСЕ

Здаецца, зусім нядаўна калектыў саўгаса „Гомельская гароднінная фабрыка“ прыняў рашэнне пабудаваць сваю паліклініку. І вось новая лячэбная ўстанова ўжо прымае першых пацыентаў.

Здароўе рабочых саўгаса — клопат асаблівы. Некалькі разоў гаспадарка памагала мясцовай участковай бальніцы ў рамонце памяшкання, набыцці новага дыягнастычнага і лячэбнага абсталявання. Да гэтага падключыўся і суседні племзавод „Бярозкі“. Цяпер усё насельніцтва гаспадарак — каля 8.500 чалавек — узята на дыспансернае абслугоўванне. У новай паліклініцы — 18 добра абсталяваных кабінетаў. Да паслуг хворых — святло — і электрапрацэдуры, лячэбныя ванны.

Паляпшэнне медыцынскага абслугоўвання, прафілактычная работа з насельніцтвам дазволіла рэзка знізіць прастудныя і іншыя захворванні працаўнікоў на жывёлагадоўчых фермах, у паляводчых брыгадах.

## АД НАВАПОЛАЦКА ДА МІНСКА

Тысячы чыгуначных саставаў вызваліць нафтапрадуктаправод, які пракладваецца ад горада Наваполацка да Мінска і надзейна забяспечыць гаручым аўтатрактарны парк цэлага рэгіёна.

Пачалося збудаванне гэтай незвычайнай магістралі. З нафтаперапрацоўчага камбіната паліва па ёй будзе паступаць непасрэдна на базы некалькіх гарадоў. Гэта ў тры разы скароціць расходы на транспарціроўку і выключыць страты сыравіны.

Пуск першай чаргі комплексу плануецца на наступны год.

## РАСКАЗВАЮЦЬ КАМЯНІ

Пра тое, што было на зямлі Беларусі тысячагоддзі і мільёны год назад, раскажуць людзям сведкі тых даўніх падзей — камяні: вучоныя рэспублікі ствараюць для гэтага незвычайны музей пад адкрытым небам. Участак плошчай чатыры гектары яны ператвараць ў рэльефную карту-макет Беларусі і размясцілі на ёй валуны дакладна на тыя месцы, дзе яны былі знойдзены.

Старажытных валуноў у Беларусі мноства: тут праходзіць мяжа, далей якой не прасоўваліся ледавікі, што наступалі з поўначы. Яны і прынеслі сюды камяні, якія „парадзіліся“ некалі на тэрыторыі сённяшняй Швецыі, Фінляндыі, Карэліі.

## СПОРТ

■ Восем залатых медалёў і агульнакамандную перамогу атрымалі савецкія самбісты на першынстве свету, якое прайшло ў Іспаніі.

У ліку мацнейшых мінчанін Віктар Бухвал.

Яго зямляк Магамед Рамазанаў у складзе зборнай СССР заваяваў Кубак свету.

■ На чэмпіянаце свету па валейболу сярод юніёраў чэмпіёнскі тытул заваявала зборная СССР. Гэтыя спаборніцтвы адбыліся ў Італіі.

Залатымі медалямі ўзнагароджаны і два выхаванцы беларускай школы валейбола: Юрый Сапега і Аляксандр Барбачэнка.

■ Упэўненай перамогай савецкіх спартсменаў завяршыўся лёгкаатлетычны матч СССР — ЗША — Японія ў Токіо.

Некалькі першых месцаў занялі беларускія спартсмены: Георгій Калнаотчэнка, Аляксандр Васільеў, Равіля Аглятдзінава.

# Бібліяграфічны кутачак

Некаторыя цікавейшыя магістэрскія працы, напісаныя ў Варшаўскім універсітэце, Філіял у Беластоку ў г.г. 1977—1982, якія датычаць Беласточчыны.

Ambrożewicz Anna — Słownictwo z zakresu wierzeń i obyczajów ludowych w gwarze mieszkańców okolic Sokółki, filologia polska, 1977/79. prom. dr. I. Halicka.

Bogdanowicz Anna — Nazwy osobowe XVIII w. na podstawie ksiąg parafialnych parafii Tykocin, filologia polska, 1979/80, prom. I. Halicka.

Bożuk Barbara — Terenowe nazwy własne w lewobrzeżnym dorzeczu górnej Biebrzy, filologia polska, 1979/80, prom. I. Halicka.

Bujalska Ewa — Nazwy wodne w górnym dorzeczu Brzozówki, filologia polska, 1978/79, prom. I. Halicka.

Ciołkiewicz Apolonia — Terenowe nazwy własne w rejonie jeziora Rajgród, filologia polska, 1977/78, prom. I. Halicka.

Chrostowska Izabela — Nazwy osobowe — nazwiska w XVII i XVIII wieku zanotowane w księgach parafialnych parafii Suraż, filologia polska, 1978/79, prom I. Halicka.

Dobrzyńska Bożena — Przezwiska i przydomki w gwarze mazowiecko-podlaskiej na przykładzie wsi okolic Łap (woj. białostockie), filologia polska, 1977/78. prom. I. Halicka.

Dyrcz Bożena — Ludowe nazwy kwiatów i ziół w górnym dorzeczu Biebrzy, filologia polska, 1979/80. prom. I. Halicka.

Godlewska Teresa — Nazwy osobowe XVII wieku na podstawie ksiąg parafialnych parafii Tykocin, filologia polska, 1979/80, prom. I. Halicka.

Grabowska Lucyna — Charakterystyka semantyczno-strukturalna nazw złożonych obiektów fizjograficznych w rejonie środkowej Biebrzy, filologia polska, 1977/78, prom. I. Halicka.

Jarmocik Teresa — Terenowe nazwy własne okolic Bielska Podlaskiego, filologia polska, 1979/80, prom. I. Halicka.

M.K. і Р.С.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## УСЕ ДЛЯ „КОНТРАС“

Пасля таго як кангрэс ЗША зацвердзіў 27 мільёнаў долараў пад выглядам „гуманнай“, а на самай справе ваеннай дапамогі контррэвалюцыянерам, апекуны гэтых бандытаў пачалі рыхтаваць новыя акцыі.

27 мільёнаў долараў, ужо адпушчаных кангрэсам, — толькі малая крыха тых грашовых сродкаў, якія накіроўвае тэрарыстам па розных каналах амерыканскі капітал. Створаны спецыяльныя фонды на сродкі прыватных асоб, вялікіх карпарацый правых арганізацый. Адна з ключавых фігур у бруднай справе фінансавання „контрас“ — ультраправы адстаўны генерал Дж. Сінглауб. Яго гэтак званая „антыкамуністычная ліга“ штомесячна ўносіць у фонд агрэсіі супроць Нікарагуа да паўмільёна долараў з „прыватных ахвяраванняў“. Ад 500 тысяч да мільёна долараў штомесячна паступае на сакрэтных рахунках кантраляваных ЗША банкаў з Панамы і іншых латынаамерыканскіх краін. Увогуле на фінансаванне банд, ад рук якіх гінуць мірныя нікарагуанцы, ужо выдаткавана каля 400 мільёнаў долараў. Сярод дабрачынцаў „контрас“ лічацца былы міністр фінансаў ЗША Уільям Сайман, тэлепрапаведнік Пат Робертсан, рэдактар журнала платных наймітаў „Солджэр оф форчун“ палкоўнік Браўн. Нядаўна ва ўльтраправых выданнях была шырока разрэкламавана „дапамога“, зробленая бандытам састарэлай мільянеркай Элен Гарвуд: яна ўнесла на бягучы рахунак распарадчыкаў фінансамі 65000 долараў — вартасць верталёта.

Заадно з Сінглаубам дзейнічае кіраўнік самосаўцаў Адольфа Калера, старшыня гэтак званых „нікарагуанскіх дэмакратычных сіл“. Калера непасрэдна звязаны з адміністрацыяй Рэйгана. Яго памагатыя Бургхарт, Менгес, Цілман і падпалкоўнік Олівер Норс уваходзяць у склад латынаамерыканскага Савета нацыянальнай бяспекі, падначаленага непасрэдна памочніку прэзідэнта Роберту Макфарлейну.

І яшчэ адна вядучая фігура ў гэтай справе — Энрыке Бермудэс, былы ваенны аташэ ў Вашынгтоне пры ўрадзе дыктатара Самосы. Яго кантора знаходзіцца на тэрыторыі Гандураса, непадалёку нікарагуанскай граніцы. Адтуль ён, забяспечыўшы зброяй „контрас“, дае ўказанні, накіроўвае на заданні, кіруе іх дзеяннямі.

Дадамо, што з благаслаўлення Белага дома Сінглауб атрымлівае дадатковыя фінансавыя сродкі з Тайваня, Паўднёвай Карэі, Саудаўскай Аравіі...

Так змыкаюцца разам усе рэакцыйныя сілы, якія вядуць неаб'яўленую вайну супроць незалежнага, свабодалюбівага народа Нікарагуа.

А. Б.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 318

### СЫНОЧАК МАРЫСІ

нашто мяне мама
выклікала ты
голасам сэрца
калі я сярод мараў
марай лётаў па небе
і сонейкам быў і ветрам
і дожджыкам вясеннім
а стаў маленькім целам
цёплым жывым

не пакідай мяне мамка
самога у снезе
шаўковых пялёнак
у паху свечак
што слёзы лілі
на мае васковыя ручкі

падай мне мамка
праменьчык
да тваіх рук і вуснаў
каб не заблудзіўся я
у цемры вечнасці

**Міра Лукша**

### САНАТА

Ліст танцуе асенні...
Апошнюю іграе санату.
У небе дрэва — карэнні
Ў сумным сваім маленні.

Ціхі шолах, шастанне...
Вяскрылае паміранне...
Шолах, шолах, шастанне...
Маўклівае паміранне...

Засынаюць прамені
Ў сваім апошнім натхненні.
Жоўты лісток асенні
Блякне ў сонца мігценні.

Зараз усё тут згасне.
Месяц у далоні пляснe.
І ў залатой паводцы
усё закружыцца, як ў лодцы.

**Юрка Трачук**

* * *

восень залацістая
маляванае лісце
і жоўтае
і чырвонае
блішчыць
падуў мацней вецер
і жоўтае
і чырвонае
мёртвае
разлучаецца з дрэвам — маці
шарэе свет
памірае свежасць
каларыт лета
ў паветры
цяжка
панура
танцуе туман
халодныя ночы
вецер востры
дзьме
мароз
заглядае
ў вочы
зіма ўжо ідзе...

**Яніна Шостак**

* * *

Сапраўдныя кветкі
даўно павялі
сапраўдныя словы
дзесьці прапалі
. . . . . . . .
і дзе тут ты?
і дзе тут я?
. . . . .
каралевай толькі пустата

**Жэня Мартынюк**

## ПРЫМІРЭННЕ

(Дубіцкая элегія)

Калі на галаве сівее мох
І плечы горбяцца пад грузам дзён,
І зношаных не чуем рук і ног —
На могілкі, каб адпачыць, ідзём.

І седзячы ля долу, у канцы дарог,
Дзе вечнасць набірае свой разгон,
Мы лёсу дзякуем, што кожны мог
Жыцця свайго паслухаць перазвон,
Сярод жывых пабыць жывым,
Дзе гоман, рух, душа баліць,
І смагласць ёсць, і можаш піць
Ваду і сонца, ссаць сцябло травы...

І вянем, адыходзячы— і нікне цень,
І ўжо для нас ні ноч, ні дзень,
І намі выжыты нам дадзены наш час,
І — няма ўжо нас для нас...

**Ян Чыквін**



## ВОСЕНЬ, ВОСЕНЬ

Іду далінаю між гор,
Праз маляўнічы лес густы,
Пад ногі сцеле мне віхор
Золатажоўтыя лісты.

І цешыць вока прыгажосць,
І незвычайны каларыт.
Ды вось і суму першы госць —
Лісты збіраюцца ў нябыт.

У тоўстай засені снягоў
Задрэмлюць дрэвы да вясны.
І будуць безупынна зноў
Сніць аб лістоце новай сны.

Шкада, шкада мне вас, лісты.
Збярог бы вас, каб толькі мог...
Плывіце ўніз, як дождж густы,
Магільнік лашчыцца да ног.

**Віктар Швед**

### ЛЯ ПОМНІКА

На помніках героям высечаны надпісы,
З граніту вочы зоркамі глядзяць,
Мінулае саракагодняй даўнасці
Гаворыць пра вайны суровы час.

Перада мною ўсе імёны родныя,
Гора народа — і мая бяда;
Хоць не мая тут маладосць забітая,
Голас зямлі святой слухаю я.

Скідаю шапку, кланяюся нізка,
Глядзіце, мёртвыя! — Жывыя помняць вас...
Клянуся, што як вы, разіў бы ворага,
Калі б я жыў у ваш суровы час.

**М. Варанецкі**

## АПОШНІ ПРАМЕНЬ

Як лета ў госці клікала,
Купаўся ў сонцы дзень,
А пад пахучай ліпаю
Быў халадок і цень.

Іскрыўся луг ад раніцы
У кропельках расы,
А на палетках спелыя
Жаўцелі каласы.

Чырвонаю калінаю
Ірдзеліся кусты,
А сёння між галінамі
Калоцяцца лісты.

Калоцяцца ад холаду,
Чапляюцца травы,
Каб хоць адзін палаючы
Прамень цяпла злавіць.

**Л. Танкевіч**

### ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

**452**

**Ён марыў аб тым, каб усе яго правы былі для іншых абавязкамі.**

**453**

**Есць пісьменнікі, у спадчыне якіх найвыдатнейшымі творчымі дасягненнямі з'яўляюцца анонімы.**

**454**

**Кніга гэта многаслоўны, а прытым нямы сябра.**

**455**

**Каханне — два шчасці, зложаныя ў адну цэласць.**

**456**

**„Сто лят", спяванае палітычнаму важаку, прадвяшчае заўчасную смерць.**

**457**

**Крывадушлівасць узнімаецца пушынкай, але спадаючы б'е як камень.**

**Алесь Барскі**

* * *

Сонца золатам праменняў
Напісала многа ценяў
Між кустоў і дрэў.
Дрэмле лес ва ўласным змроку
І не чуць нідзе ні кроку —
Толькі птушак спеў.

Нетры бору страшаць цемрай,
Нібы пашчаю агромнай
Казачны дракон.
Там, здаецца, ўсё застыла,
А ўсе сосны злая сіла
Узяла ў палон.

І трымае іх без руху,
Напаўшы ўсіх сівухай,
Каб пачулі сплін.
Ціха там, як у пячоры,
А святло дзесь, як з-за шторы,
Сочыцца з галін.

Пойдзеш ты туды — пачуеш,
Што жыве там і працуе
Кожны цаль зямлі.
Там пад кожнаю былінкай
Не адна жыцця сцяжынка —
Многа калян.

**Д. Шатыловіч**



### ЭЛЕГІЯ ПАКІНУТАГА ГНЯЗДА

Хаты вясковыя — гнёзды пакінутыя, якім не пачуць ужо галасоў маладых. Пад кашаль старэчы слухаць вам байкі пра лёс залаты сыноў, што ў чыноўніках ходзяць, і пра дочак замужжы панскія. А яны ж — не тыя птушкі, каб у староне роднае вярнуцца. Пагінуць па свеце шырокім, паразлятаўшыся хто куды і нават туды, дзе ніхто не чакаў іх. Ім, аднак, хлебна ёсць там, на спадчыне той чужой, хоць — бывае — і зусім зязюльчынай. Куюць галасіста песню сваю шчасця ад сытасці безайчыннай, здаволеныя над здаволенымі.

А вёску тваю няхай яма заваліць разам з мінулым яе нялюдскім ды працаю гаротнаю, з доляй горкаю і сварнёю без сціхання, з усімі зайздрасцямі яе ды праўдамі тымі і няпраўдамі!...

Унукі твае, хаціна ты хілая, кажуць і казаць будуць: не дай Бог пад страхою тваёю нарадзіцца!

**Сакрат Яновіч, 1985 г.**

* * *

стану сэбэ хваліті
— хто поймэ
як прыгледавшысь в зэлёнуй водіе
дэржусь хворэі памэті
імга — як ны прыступаю
і яркі острова прыгасают
час голубіті стіну от сусіеда
змішатісь — туолько — что по платіі
. . . . . . . . . . . . . .
нэ жді ночы як корабля
— зуміееш

**З. Сачко**

трапяць цудоўна адпачываць, гуляць. Усё тут такое лагоднае, мяккае, мілае: і мелодыі, і танцы, і паводзіны — эпоха 40—50-ых гадоў, эпоха іхнай маладосці, цудоўная эпоха...

У наступны чацвер, 10 кастрычніка, сабралася праўленне гуртка, якое складаюць: старшыня — Анна Пісанка, намеснік старшыні — Віталі Байгус, члены праўлення: Мар'я Байгус, Мікалай Дубец, Міхал Крупіцкі, Вера Паплаўская, Уладзімір Пісанка. Абмеркавалі і склалі яны план дзейнасці гуртка на бліжэйшы квартал. У ім два выезды тэатральнага гуртка з пастаноўкай „Ажаніся — вяселіся“ на Сакольшчыну, у Верхлес, і аж на Пабужжа, у Тымянку і Вілянова; урачыстая вечарына ў гонар „Дня сеньёра“ з выступленнем хору, пампушкамі, гарбатай, танцамі, развучванне новай п'есы, падрыхтоўка да конкурсаў „Беларуская песня — 86“ і тэатральных калектываў, а таксама навагодні баль і шмат чаго іншага. У далейшай перспектыве: куліг у Белавежу, выступленне з новай п'есай у Беластоку і выезд з пастаноўкай куды-небудзь у мястэчка ці вёску. Ну і спецыяльны канцэрт для ліцэістаў Гайнаўскага беларускага ліцэя, каб паглядзелі і паслухалі, як прыемна гучыць роднае слова і мелодыя...

У гуртку многа самаахвярных актыўных людзей, але натхняльнікі да дзеяння — гэта старшыня А. Пісанка і кіраўнік мастацкай самадзейнасці Янка Крупа. І так, А. Пісанка на пачатку вечарыны збірала членскія складчыны, а потым на сцэне спявала ў дуэце, а Я. Крупа тады ж вёў канферансье і выконваў вядучыя ролі ў пастаноўцы, тыднем пазней — развучваў разам з усім калектывам новую п'есу.

Пенсіянерскі гурток БГКТ у Беластоку працуе з маладым запалам.

**М. Гайдук**

Фота аўтара



**А самадзейныя акцёры граюць добра**

**(Працяг са стар. 2)**

## НА МЯЖЫ

свае, ні чужыя. Яшчэ магу зразумець, прынамсі ў пэўнай ступені, чалавека мала адукаванага, забітага ці застрашанага, які, можа, сапраўды не здае сабе справы з розніцы паміж дзяржаўнасцю і нацыянальнасцю і таму, пастаўлены абставінамі перад неабходнасцю пісаць аб сваёй нацыянальнасці і дзяржаўнасці, блытае адно з другім. Але ў ніякім выпадку не разумею і не апраўдваю выпускніка беларускага ліцэя ці студэнта кафедры беларускай філалогіі, не гаворачы ўжо аб беларускіх журналістах, паэтах, дзеячах, якія, несумненна, ведаюць аб розніцы паміж дзяржаўнасцю і нацыянальнасцю і, нягледзячы на гэта, (некаторыя) свядома ілгуць і ўводзяць у зман дзяржаву, з якой аж так моцна нібыта атаясамліваюцца. Грозныя гэта людзі. І таму, калі сустрэнецеся з імі, ведайце, што маеце дачыненне з людзьмі, якія прадаўшы сябе, прададуць і вас.

**Алесь Барскі**

## СОННІК

Як мы ўжо паведамлялі, ад новага года пачнем друкаваць соннік. Соннік будзе друкавацца ў кожным нумары на працягу цэлага года ў такім фармаце, каб кожны змог лёгка скласці сабе кніжку.

Каб не мець клопатаў з камплектаваннем сонніка, раім неадкладна выпісаць „Ніву“ на цэлы год. Прыпамінаем, падпіска на 1986 год прымаецца толькі да 10 лістапада.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Паваліўся на адну нагу — устанеш, а калі на дзве — канцы табе.

*

Паправіўся: пляваў на грудзі, цяпер — на бараду.

*

Са шчасцем добра і ў грыбы хадзіць.




## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

Прачытаў я аб прамінанні (частку VII) у Алеся Барскага. Ён там піша: „На працягу апошніх гадоў не толькі не паменшылася, але павялічылася колькасць паталагічных з'яў і злачынстваў“. І далей зноў: „Ці верым, ці не верым у прадаўжэнне чалавечага існавання пасля смерці, павінны мы паступаць так, каб наш дабрабыт не абапіраўся на бядзе іншых“.

Ехаў я неяк поездам з Варшавы ў Беласток. Прысеў побач чалавек — знябожаны, сумны. Памеркаваў я, што яго нешта мучыць. Пачаў з ім гутарку, адкуль едзе, чаго такі сумны. І ён расказаў. Ездзіў у міністэрства, каб купіць гектар зямлі, якую сусед здаў за рэнту. Гэты сумны чалавек хацеў мець зямлю бліжэй вёскі і вады, хацеў перабудавацца, бо цяпер жыве на хутары і без вады. А швагер рашыў купіць усю гэту гаспадарку і не хоча адступіць ані гектара. У гміне згаджаліся, але швагер так задзейнічаў, што нідзе нічога не дабіцца.

Бацька яго быў бедны. Перад камасацыяй палоскі дзялілі з братам упоперак, бо ўздоўж не было як араць. У час камасацыі захацелася бацьку больш зямлі — і атрымаў калонію на горах. Зямлі многа, а карысці мала. Вады няма, толькі лес садзіць. Пабудаваліся ў далінцы, выкапалі калодзеж на 30 кругоў, але нядоўга цешыліся вадою, бо яна знікла, паглыбляць жа далей нельга было, бо кругі палопалі. Пасля смерці бацькі яму, маладому, калонія трапілася без вады. Пачаў капаць калодзеж, ды да вады не дабраўся. Зімою топіць снег, а на яду летам прыносіць вядзерца ад суседа, і трэба ісці больш як кіламетр.

Дзеці яго кінулі гэту праклятую гаспадарку і падаліся ў свет. Жывуць па-панску, маюць ваду з кранаў і цёплую, і халодную, і здаровую. А ты, стары, дажывай у смуродзе і ў адзіноце, бо характар не дазваляе кінуць сваю хатку.

**Н. Б.**

ПФЗэтаўскія абшары крыху зменшыліся, але гэта толькі таму, што арганізаваныя на іх кааператывы прадалі самыя лепшыя землі ды лугі сялянам. Цяпер у ПФЗэце зноў 26 тысяч гектараў зямлі і лугу ды гэтая колькасць расце з месяца ў месяц. На жаль, пераважна яна ляжыцца аблогам або марнее ў дрэнным, абыякавым гаспадаранні ёю. Выхад моладзі з вёсак у гарады паказвае, што ПФЗэтаўскай зямлі будзе прыбываць яшчэ болей. Асабліва пазбягаюць жыцця і працы на вёсцы дзяўчаты, ужо цяпер на 5 дарослых хлопцаў прыходзіцца 1 дзяўчына! Таму заснаваць сям'ю самаму працавітаму, заможнаму ды прыстойнаму вясковаму хлапцу — гэта вельмі цяжкая справа. Паводле меркаванняў спецыялістаў да 1990 г. на Беласточчыне прыбудзе яшчэ 13 тысяч га здадзенай зямлі і ў ПФЗэце яе будзе амаль 40 тысяч га. Гэта тэрыторыя некалькіх гмінаў!

Таму неабходны значныя сродкі ад Ураду на агульнае паляпшэнне жыцця ва Усходняй Беласточчыне. І то сродкі не малыя, бо на пабудову густой сеткі ладных сучасных дарог, пракладку водаправоду, мадэрнізацыю электрычных ліній, закладку тэлефонаў, стварэнне патрэбнай сеткі розных паслуг, стварэнне прыхільных умоваў для культурнага жыцця і г.д. А ўсё гэта надта ж дарагія мерапрыемствы і шэраг з іх трэба пачынаць на пустым месцы. Напрыклад, у кожнай трэцяй вёсцы не хапае вады і толькі кожная восьмая вёска мае водаправод.

На ПФЗэтаўскіх землях у хуткім тэмпе ідзе заснаванне новых ПГРаў, але трэба яго яшчэ больш паскорыць. І як заўважыў прадстаўнік міністэрства сельскай гаспадаркі, на гэта знойдуцца сродкі, бо зямля не можа ляжаць аблогам. У бліжэйшыя гады паўстануць ПГРы ў Нарве, Нурцы-станцыі, Мельніку і іншых мясцовасцях. У той жа час будуць праводзіцца розныя прававыя мерапрыемствы, каб заахвоціць сялян да загаспадарання слабейшых — пераважна V і VI класа — зямель і дапамагчы новым ПГР-ам у пачатку іх дзейнасці. Віцэ-прэм'ер Я. Абадоўскі сцвердзіў, што Урад не адступіць ад прынятай праграмы, каб на працягу бліжэйшых 5-6 год поўнасцю забяспечыць сельскую гаспадарку машынамі, асноўнымі інвестыцыямі па захоўванню і перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі. Дзеля гэтага, між іншым, паўстане элеватар і мукамольны камбінат у Бельску, прадпрыемства па вырабу сокаў з садавіны і агародніны ў Беластоку, будуць рэканструяваны і ўзбуйнены беластоцкія халадзільны і малочны камбінаты.

Шмат увагі нарада прысвяціла таксама справам жыллёвага будаўніцтва ў горадзе і вёсцы. У гэтай дзялянцы было і надалей ёсць многа цяжкасцей. Перш за ўсё не хапае цэменту, сталі, арматуры. Трэба таксама замяняць у будаўніцтве шырокую панель („вялікую пліту“) іншымі будаўнічымі спосабамі, бо „вялікая пліта“ паглынае неймаверную колькасць цэменту і сталі ды і будынкі з яе патрабуюць большага абагравання. А ў індывідуальным будаўніцтве поступ наперад паўстрымоўвала завялікая колькасць выдадзеных дазволаў без забеспячэння іх будаўнічымі матэрыяламі. Таму ў аднаго чалавека быў цэмент, у другога цэгла, у трэцяга сталь, у чацвертага — яшчэ што-небудзь, а ўсе чатыры пабудовы не маглі рушыць з месца! Гэтыя справы патрабуюць неадкладнага ўладкавання.

І ўсё ж у краіне, у тым ліку і на Беласточчыне, 3-гадовы план па жыллёваму будаўніцтву (385 тыс. кватэраў) будзе перавыкананы (будзе каля 410 тыс. новых кватэраў). А ў будучым 1986 г. мяркуецца пабудаваць каля 200 тыс. кватэраў (140 тыс. ў шматкватэрным будаўніцтве і 60 тыс. індывідуальных дамоў).

Такім чынам, нарада ў Беластоку паказала, што наша гаспадарка з натугаю, але ўсё ж пераможна выходзіць з крызісу, а гэта падбадзёрвае ўсіх нас.

**Мікола Гайдук**

(Праняг са стар. 7)

# ЛАЦІНСКІ ЦІ СЛАВЯНСКІ?

Спрэчкі выклікала адкрыццё ратунды Фелікса і Адаукта на Вавелі. План яе прыпамінае планы вялікамараўскіх касцёлаў. Падобная справа маецца і з адкрыццём так званай „хрысціянскай міскі“ ў Вісліцы, праўдападобна, першай сталіцы віслян. У вісліцкім календары з XVI ст. выступае імя св. Гаразда. Гаразд належаў да самых блізкіх вучняў і супрацоўнікаў Мефодзія. Ён плённа працаваў потым у Балгарыі, дзе да сёння лічыцца апосталам хрысціян гэтай краіны.

У выпадку Мазоўша на асаблівую ўвагу заслугоўвае постаць Мяцлава, пры якім быў пабудаваны плоцкі Трыканхос. Некаторыя гісторыкі (Г. Пашкевіч) ставяць гэтага збунтаванага слугу Мешка II у ролі правадыра праследаваных веравызнаўцаў славянскага абраду. Паводле гэтай думкі, перыяд непакояў, які настаў пасля смерці Мешка II (1034) трэба прыняць як барацьбу двух супрацьстаўных абрадаў. Толькі потым, пасля многіх гадоў лацінскія летапісцы, хочучы зацерці сляды, назвалі тыя непакоі язычаскай рэакцыяй.

Пад сцягам Мяцлава сабраліся прыхільнікі славянскай літургіі. Ды палітычная сітуацыя была для Мяцлава неспрыяльная. Нямецкі кесар даў збройную дапамогу Казіміру, названаму Аднавіцелем, з умовай, што краіна, якую здабудзе, будзе выключна лацінскай. На жаль, таксама і Русь, хоць па іншай прычыне, варожа аднеслася да Мяцлава. Сама Русь, як вядома, прыняла славянскі абрад, аднак Яраслаў Мудры неприхільна адносіўся да існавання другога, апрача кіеўскага, цэнтра славянскай літургіі ў Польшчы. І, рэалізуючы свае экспансіянісцкія намеры, памог Казіміру знішчыць Мяцлава. Асабліва крывавай была бітва ў 1047 г. Гал Ананім напісаў, што „была вялікая разня Мазоўша, аб чым дагэтуль сведчыць поле бітвы і месца на высокім беразе ракі“.

Мяцлаў сабраў 30 палкоў, у якіх былі і воі з язычаскіх прусаў і яцвягаў. Сам Казімір заахвочваў сваіх рыцараў да бою словамі: „falsi chrysticolae“ — фальшывыя хрысціяне. Гэта неабвяргальны доказ, што бой адбываўся паміж прадстаўнікамі двух рэлігійных абрадаў. Казімір верна выконваў прысягу, дадзеную кесару Генрыху III.

У выніку былі знішчаны святыні „ерэтычнага“ абраду, славянскія святары былі выгнаны або прымушаны прыняць лацінскую літургію. У афіцыйных дакументах пачалі пісаць, што польская касцельная арганізацыя заўсёды падлягала Рыму. Сляды славянскай літургіі нішчыліся доўга і дакладна. Але тыя, якія засталіся, пазваляюць аднак ставіць пытанні і сумнявацца ў афіцыйнай версіі гісторыі хрысціянства на польскіх землях. (РС.)




Лады праводзіліся з дзвюма мэтамі. Першая з іх заключалася ў тым, каб канчаткова вырашыць справу характару і памеру пасагу. Другая зводзілася да публічнага паведамлення ўсіх зацікаўленых аб вяселлі. Калі пасля ладоў адзін з бакоў адступаў ад намеру правесці вяселле, тады мусіў унесці матэрыяльную кампенсацыю, якая выраўноўвала не толькі матэрыяльныя, але і маральныя страты.

У час ладоў, пры ўдзеле ўзбуджваючага эмоцыі фактара — гарэлкі, вяліся доўгія размовы ў справе пасагу, якія нярэдка замяняліся ў гарачыя спрэчкі, а нават сваркі. Часта напаміналі яны сваім характарам базарныя сцэны, звязаныя з гандлёвымі здзелкамі. Галоўнымі героямі гэтых спрэчак былі бацькі маладой і маладога. Аднак усё гэта адбывалася на вачах сабраных, якія мелі права ўключацца ў размовы і спрэчкі. Бацькі маладой і маладога многа разоў падавалі сабе рукі, дэкларавалі акрэсленыя сумы і ўдарамі далоняў стараліся выклікаць згоду партнёра. Такая практыка была несумненным рэліктам, пачэрпнутым з тых часоў, калі жонку куплялі за акрэсленую суму грошай ці іншых матэрыяльных каштоўнасцей. Ды толькі калісьці плаціў за жонку той, хто яе здабываў, а ў нашым выпадку плацілі бацькі дзяўчыны. Плаціў не той, хто „набываў“, а той, хто „прадаваў“.

Здараліся выпадкі, што бацькі маладога і маладой пакідалі сабраных, выходзілі і ў „чатыры вочы“ стараліся дайсці да згоды. Калі ўрэшце вярталіся, сярод сабраных паяўляўся настрой адабральнага энтузіязму, узмоцненага дадатковым піццём гарэлкі.

Пасаг найчасцей складаўся з каровы, авечкі, акрэсленай сумы грошай, куска зямлі або луга. Часта бацькі маладой абавязваліся даставіць на вясельны стол маладога мяса і гарэлку. Апрача гэтага маладая была абавязана прывезці з сабой пасцель, ручнікі, плахты, макаткі, сурвэты і г.д.

Калі дзяўчына мела нейкі фізічны недахоп, тады бацькі хлопца стараліся гэта бесцырымонна выкарыстаць, дамагаючыся за гэта дадатковай матэрыяльнай кампенсацыі.

Аб тым, наколькі важнай справай быў пасаг, можа сведчыць выпадак, які здарыўся ў вёсцы Збуч у дваццатыя гады. У дзень шлюбу прыехала ў царкву не засватаная дзяўчына, а яе кульгавая сястра. Перад царквой дайшло да „бунту“ маладога, які пачуўся абражаны. Дайшло да размовы, якую вёў маршалак ад імя непрысутных бацькоў дзяўчыны. Хлапец, даведаўшыся аб значным павелічэнні пасагу, згадзіўся ўзяць шлюб з кульгавай дзяўчынай.

Здараліся выпадкі, што бацькі дзяўчыны пасля яе выхаду замуж не давалі абяцанага пасагу. У такіх сітуацыях вельмі часта малады муж выганяў жонку з дому і гаварыў, што можа яна вярнуцца толькі з абяцаным пасагам. Такі ўчынак маладога мужа сустракаўся са зразуменнем і падтрымкай не толькі з боку яго бацькоў і сваякоў, але таксама з боку сваякоў цесця. Усе лічылі, што адступленне ад узятых у часе ладоў на сябе абавязанняў ёсць формай маральнага злачынства. З гэтай прычыны суседзі цесця або яго сваякі раілі яму даць абяцаны пасаг, а калі гэта было немагчыма, дык, як правіла, давалі яму адпаведныя пазыкі. Часта даходзіла да размоў паміж бацькамі выгнанай маладзіцы і яе мужа. Размовы гэтыя ў ніякім выпадку не маглі датычыць змяншэння пасагу. У крайнім выпадку маглі быць звязаны з адтэрмінаваннем пасагу. Наогул, аднак, сям'я маладога мужа праяўляла ў такіх выпадках выключную чуйнасць і згаджалася прыняць сыновую толькі разам з пасагам. Былі гэта выпадкі даволі рэдкія. Справа ў тым, што бацькі дзяўчыны ведалі, чым пагражае не дастаўлены пасаг і таму, баючыся кампраметацыі, стараліся вывязвацца з узятых на сябе абавязанняў.

А. Барычэўскі




## ЖУРАВІНЫ

Канец кастрычніка — гэта час поўнай спеласці адной з самых цікавых брусьнічных — журавін. Беласточчына — найбольшы басейн гэтай расліны ў Польшчы. Нідзе ўжо нельга знайсці такіх журавінавых „плаўняў“, як у Кнышынскай ці Белавежскай пушчах. І ўсё ж сумняваюся, ці шаноўным Чытачам яшчэ ўдасца назбіраць гэтых ягад, ну, хоць бы на лякарства. Справа ў тым, што ўжо з канца жніўня ідзе гонка за журавінамі. У нядзелю, 1 верасня, я сустрэў жанчыну, якая з-пад Міхалова везла поўны кашэль белых яшчэ ягад. Спытаў я, чаму яна збірае няспелыя журавіны, а тая мне:

— Даспеюць! А ў збіранні: хто першы — той лепшы!

На самай справе, сабраныя ў такім часе белыя журавіны пад уздзеяннем святла хутка прымуць уласцівы ім чырвоны колер, але ніколі не даспеюць у фізіялагічным сэнсе. Даспеўшыя ў штучных варунках ягады маюць у сабе нават на трэць меней цукру, вітамінаў, кіслотаў і іншых злучэнняў, як тыя, якія даспелі на расліне. Таму гэтая пагоня за журавінамі нагадвае мне паводзіны паводле прыказкі: „І сам не гам, і іншаму не дам“.

Журавіны (лацінская назва — Oxycoccus quadripetalus, żurawina błotna — па-польску, клюква четырёхлепестная — па-руску) на Беласточчыне называюць часам „клюквай“. Таксама розныя можна пачуць погляды на самую назву расліны: адны кажуць, што „журавіны“ — гэта ягады жораваў, бо і сапраўды жоравы гэтыя ягады ахвотна ядуць. Іншыя даказваюць, што назвы „клюква“ ці „журавіны“ ўзяліся з таго, што выгляд кветак гэтай расліны нагадвае дзюбу (шыю, галаву і дзюбу) жорава. Так ці інакш, аднак назвы расліны і птушкі маюць нешта супольнае. Шкада толькі, што ляцячыя жоравы ў нашых лясах не надта пасілкуюцца сваім прысмакам — людзі былі першымі.

Гэтая пагоня за журавінамі ў некаторай ступені апраўдана. Няма сумнення, што гэтыя ягады — адзін з найкаштоўнейшых дараў нашых лясоў. Прыгадваем толькі некаторыя найважнейшыя ўласцівасці журавін:

1. Кіслоты, якія знаходзяцца ў іх, уздзейнічаюць антысептычна (знішчаюць мікробы, асабліва хваробатворныя бактэрыі). Гэта дазваляе захоўваць ягады ў сырым стане. Найлепшы спосаб захоўваць іх „на сыра“. Спалоснутыя ягады ўсыпаюць у слоікі, заліваюць іх перагатаванай вадой, няшчыльна закрываюць такім чынам, каб слоік праветрываўся, напрыклад, палатном, і ставяць у памяшканні з тэмпературай 4-10°C. Так забяспечаныя спелыя журавіны захоўваюцца свежымі на працягу 9 месяцаў. Спелыя ягады можна таксама захоўваць „на суха“. Іх проста ставяць у кошыках. Праўда, за зіму яны высахнуць і крыху страцяць на вазе, але поўнасцю захоўваюць сваю вартасць. Прамерзлыя ягады крыху трацяць вартасць.

Антысептычнае ўздзеянне журавін выкарыстоўваюць у лячэнні імі прастуды, ангіны і іншых заразных хвароб.

2. У журавінах знаходзяцца арганічныя злучэнні, якія маюць здольнасць паглынаць цяжкія металы, асабліва волава, кобальт і інш. Людзям, якія падвергнуты ўздзеянню такіх металаў, рэкамендуецца сістэматычна спажываць сырыя журавіны.

3. У ягадах знаходзяцца цукры, мікраэлементы, вітаміны, арганічныя кіслоты і іншыя злучэнні, якія выдатна ўзмацняюць і загартоўваюць чалавечы арганізм. Журавіны асабліва рэкамендуюцца пры анеміі і іншых паслабленнях арганізма. У лячэнні самыя прыдатныя журавіны з цукрам або журавіны з мёдам.

4. Журавінавыя пектыны валодаюць асабліва пажаданымі жэлацінавымі ўласцівасцямі, і гэта дазваляе шырока прымяняць іх у хатняй гаспадарцы і спажывецкай прамысловасці. Гаспадыні нарыхтоўваюць з іх перш за ўсё кісель або гэтак званыя „журавіны да мяса“, напітка, а таксама сіроп, джэмы, варэнні, „журавіны ў цукры“ і г.д.

Спажываць журавіны вельмі здорава. Быццам бы, асабліва дабрадзейна ўздзейнічаюць яны на пячонку. Журавіны таксама паніжаюць гарачку і ўздзейнічаюць супакойваюча.

Вялікае запатрабаванне на журавіны было прычынай таго, што ў Літве і Эстоніі заснавалі спецыяльныя плантацыі журавін. Вопыт паказвае, што вырошчваць іх можна, а ягады з плантацый значна большыя, чым у дзікарастучых. Мо і ў нас знойдзецца хто-небудзь адважны і возьмецца за такую піянерскую, але грамадска надта ж карысную справу.

Б. Паскробка

# Зорка

## Старонка для дзяцей

Барыс Рабенькі

## „ГАЛЁШ"

Пачуўшы званок, трэцякласнік Юрка Мелеш пайшоў адчыняць дзверы. На парозе стаяў яго сябар і сусед па парце Змітрок.

— Юрка, ты не забыўся, што з панядзелка ў нас новая настаўніца?

— Ну і што?

— Дзівак! Гэта ж табе не пані Іванюк. Гэта шанц! Мне Сярожка Максімаў расказваў, як ён такую вось маладую настаўніцу пасадзіў у галёш.

— А што гэта значыць?

— Сваімі пытаннямі і навуковымі тэрмінамі загнаў яе ў тупік! І вось мой старэйшы брат накідаў два пытанні — адно табе, другое мне. Зададзім іх настаўніцы — яна адразу зразумее, з кім мае справу, і не тое што выклікаць, глядзець у наш бок забудзе. Уяўляеш, быццам бы і ходзім мы ў школу, як усе, а на справе — вольныя птушкі: хочаш — гуляй у „марскі бой", хочаш — складай кубік Рубіка. Ну што, згодны?

— Вядома! — радасна сказаў Юрка.

У панядзелак пасля званка ў клас увайшла маладзенькая дзяўчына і, крыху хвалюючыся, прадставілася:

— Вы ўжо, напэўна, здагадаліся: я — ваша новая настаўніца. Давайце знаёміцца: мяне завуць Алена.

Пані Алена зрабіла пераклічку і, устаўшы з крэсла, сказала:

— Зараз у нас урок матэматыкі. У каго ёсць пытанні па пройдзенаму матэрыялу? Каму што незразумела?

— Давай! — Змітрок штурхнуў локцем Юрку.

— У мяне ёсць пытанне, — падняў руку Юрка.

— Калі ласка, Юрка... Юрка...

— Мелеш, — падказаў Юрка.



У сонечны восеньскі дзень на школьным агародзе ў Малінніках каля Орлі. Фота М. Гайдука.

— Растлумачце, калі ласка, з пункту гледжання банальнай эрудыцыі, якая новая канцэпцыя паходжання чорных дзірак, як анамальных з'яў Сусвету, што ўвесь час пашыраецца?

— Адкажу на пытанне Юркі Мелеша, яно якраз па тэме, — без ценю збянтэжанасці сказала настаўніца. — З пункту гледжання банальнай эрудыцыі, якая матывіруе абстракцыю, кожная крытычная метафізічная субстанцыя не можа ігнараваць крытэрыі трансцэндэнтнасці на аснове ўтапічнага абстракцыянізму. У гэтым кантэксце чорная дзірка, або, адэкватна кажучы, гравітацыйная магіла, уяўляецца як склапсіраванае гіпатэтычнае нябеснае цела са шчыльнасцю, адваротна прапарцыянальнай квадрату яе масы... Зразумеў, Юрка Мелеш?

— Зразумеў, — запінаючыся, прамармытаў Юрка.

(Праціг на стар. 10)



Вучні чацвертага класа школы ў Махнатым. На сустрэчы з „Зоркай" праспявалі цікавую і забаўную песеньку — гульню. Фота Я. Чэрнякевіч

Мікола Чарняўскі

## КРЫЎДА

### КАЗКА

Ад сабак уцякала лісіца.
„Дзе б схавацца?
Куды б затуліцца?.."

Раптам бачыць —
Нара-дамоўка!
„У ёй сяброўка жыве,
сяброўка!.."
Перад носам сабак якраз
Ліска шуснула ў цёмны лаз.

Ды не рада лісіцы лісіца:
— Вымятайся з нары,
сястрыца.
Душна дужа:
Сваім хвастом
Мне ты ўвесь затуліла
дом.
Ці мяне найхутчэй пакідай,
Ці сабакам свой хвост
аддай!
— Я ж сяброўка табе,
Я ж радня!..
— А што зробіш? —
Нара адна.
Я схавала б цябе, схавала,
Але месца, як бачыш, мала.
Тут самой бы хаця схавацца,
Тут самой бы хаця
ўратавацца...

І ад крыўды,
З ухмылкаю злой —
Госця шуснула з хаткі
стралой!
Спахапіліся ганчакі —
Не дагнаць,
Не ўхапіць за бакі!..

Сілай выпхнуўшы,
выгнаўшы госцю
Гаспадыня пагрызла косці:
„Есці хочацца, хоць памры,
Але ж выбрацца як з нары?
Можа, гончыя дзе недалёка,
Можа, сочаць, не зводзяць
вока?"

Ганчакоў галасы прымоўклі —
Ціха выпаўзла ліска з дамоўкі
І прылесачкам —
У хмызнякі:
Там збіраюцца цецерукі.

„Як пачнуць лапатаць,
такаваць
Хоць крыло,
Ды змагу ўпаляваць..."

Не ўдалося лісе паляванне.
Падалася ў сяло
на змярканні:
Там,
Калі асцярожнаю быць,
Можна пеўніка раздабыць...

Ціха крадзецца рыжая, ціха...
Раптам — што гэта?
Скуль гэта ліха?! —
Заскуголіў, заенчыў хорт,
Шась, учуўшы яе,
Цераз плот!

А зладзейка — трубою хвост,
Ды ў лясок,
Ды ў лясок наўпрост!..
Раптам бачыць —
Нара-дамоўка!
„Тут, напэўна, жыве
сяброўка..."
І маланкаю ў цёмны лаз
Сіганула ўцякачка ўраз!..

Ды не рада лісіцы лісіца:
— Вымятайся з нары,
сястрыца
Душна дужа:

(Праціг на стар. 10)

## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### СІНІЦА ЗА АКНОМ

Калі я быў маленькі, мы з татам зрабілі за акном кармушку для птушак. З першымі марозамі прылятаць да нас сініцы і вераб'і. А перад самай вясною наведаліся ружовыя, як яблыкі, гілі.

Многіх птушак мы пазнавалі і нават давалі ім імёны. Так самая вялікая і адважная сініца атрымала ў нас імя Джамалунгма.

Для сінічак мы прымацоўвалі да кармушкі кавалачак нясоленага сала. Сінічка сала цярэбіць, рве, а верабейчыку замёрзлы кавалак сала не пад сілу. Паспрабуе дзяўбсці яго верабейчык, ды і бярэцца за зерне.

У цёплае надвор'е мы трымалі фортачку адчыненай. І тады Джамалунгма першая з'явілася ў госці. Прыляціць, сядзе на ўнутраную раму і спросіць: „Фі-ці-ві-ціу? Фі-ці-ві-ціу?"

Я разумеў мову сініцы. Гэта яна па-свойму, па сінічынаму пыталася: „Як вы тут жывеце? Як вы тут жывеце?"

— Ві-ціу, ві-ціу! — адказваў я. — Жывем памаленьку.

Калі я сядзеў пры стале і рыхтаваў урокі, сініца ўлятала ў пакой, садзілася на адчыненыя дзверкі шафы і пачынала прыхарошвацца. Калі мяне пры стале не было, яна апускалася на стол, перабірала сшыткі, быццам хацела даведацца, якія там ацэнкі.

З надыходам вясны сініцы зніклі на ўсё лета, да позняй восені. На жаль, вярталіся яны далёка не ўсе, многія зніклі ў вадавароце летняга птушынага жыцця.

Радасныя старонкі ўпісалі сінічкі за акном у памяць майго дзяцінства. І не ведаю, хто каму больш быў патрэбны — мы сінічкам ці сінічкі нам...

**М. Вялічка, прыродазнаўца**

### КАРМУШКІ

Зіма для птушак — вельмі цяжкі час. Ці падумалі вы ўжо, як дапамагчы ім перазімаваць? Паглядзіце, якія кармушкі можна зрабіць самому.

1. Кармушку-раскладушку зрабіць можна вельмі проста. Тры невялікія кавалкі склейкі, злучаныя паміж сабою палоскамі матэрыялу. Зверху прымацаваны пецелькі, за якія яе можна завесіць на шнурку да галінкі. Такая кармушка настолькі лёгкая, што яна свабодна паварочваецца да ветру бокам. І снег у яе не трапляе.

2. На другім малюнку звярніце ўвагу на дашак у форме шалаша. Ён таксама добра ахоўвае кармушку ад снегу. Калі ў лесе ёсць елкі, кармушкі лепш за ўсё вешаць на іх: касматыя яловыя лапкі добра ахоўваюць кармушку ад снегу.

3. У гэтай кармушкі вельмі высокі дах. Гэта сталоўка для буйных птушак.

Такія кармушкі і шмат іншых мы робім з вучнямі на ўроках працы. А потым ідзем у лес і развешваем іх там. Мы будзем цешыцца, калі нашыя парады вам дапамогуць. А калі ў вас ёсць уласныя канструкцыі кармушак — цудоўна! Рабіце! Галоўнае, каб у лясах, скверах, парках, у дварах паявіліся птушыныя сталоўкі.

**Н. Шчарбакоў, настаўнік.**



## НАШ САД

Зіхаціць на сонцы сад
Залатым пажарам,
Быццам выйшаў на парад
З восеньскім ён дарам.

У паветры зжоўклы ліст
Кружыцца дукатам,
Засцілаючы зямлю
Дываном стракатым.

Зарадзіў нішто садок
Яблыкаў ды грушаў!
Смачны з іх мы зробім сок,
На зіму насушым.

І праз дрэвы ў дзённы час,
І праз неба просінь
Усміхаецца да нас
Залатая восень.

**Сяргей Новік-Пяюн.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 231960, Гродзенская вобласць, г.п. Свіслач, вул. Леніна, д. 18, кв. 10. Паўлючэні Тані. 12 год.

* * *

СССР, 344113, г. Ростов-на-Дону, ул. Орбитальная, д. 52, кв. 103. Ханиной Ларисе. 15 год.

* * *

СССР, 346916, Ростовская обл., г. Новошахтинск-16, ул. Р. Землячки, 4 Рословой Марине Шосты клас.

* * *

СССР, 346500, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Шевченко, д. 78, кв. 44. Старичковой Елене. Восьмы клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Сергея Лазо, 10. Сизенко Наташе. Пяты клас.

* * *

СССР, 346515, Ростовская обл., г. Шахты-15, ул. Штрековая, 48. Фомина Марина.

* * *

СССР, 300007, г. Тула, ул. М. Смирнова, 26. Пискуновой Елене. Дзяўчынка хоча перапісвацца з пятнаццацігодкамі.

### ЗАГАДКІ ПРА СТЫХІЮ І З'ЯВЫ ПРЫРОДЫ

1. Стукае, грукае, а нідзе яго не відаць.
2. Зароў вол на сто гор, на тысячу азёр.
3. Сівы жарабец на ўсё царства заржаў.
4. Бегла ліска, каля лесу блізка, ні сцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя ножкі.
5. Ляціць, а не птушка, вые, а не звер.
6. Без рук, без ног, а вароты адчыняе.
7. У шырокім полі салавей свішча.
8. І шуміць, і гудзе, на ўвесь свет голас ідзе.
9. Ляціць без крыл, бяжыць без ног, плыве без ветразя.
10. Распластала птушка крылы, ажно сонца засланіла.
11. Сівая кабыла па свеце хадзіла, да нас прыйшла, па руках пайшла.
12. Ішоў даўгавяз, у сырую зямлю ўвяз.
13. І тонкі, і доўгі, а з травы не відаць.
14. Адзін лье, другі п'е, трэці зелянее ды расце.
15. Чырвонае карамысла праз рэчку павісла.
16. Цераз палі, цераз лугі спусціліся канцы дугі.

### АДГАДКІ

*1-3. Гром. 4. Маланка. 5-6. Вецер. 7-9. Хмара. 10. Хмара і дождж. 12-13. Дождж. 14. Дождж, зямля, трава. 15-16. Вясёлка.*

(Працяг са стар. 9)

### КРЫЎДА

*Сваім хвастом*
*Мне ты ўвесь затуліла*
*дом.*

*— Я ж сяброўка табе,*
*Я ж радня!..*
*— А што зробіш? —*
*Нара адна.*
*Я схавала б цябе, схавала,*
*Але месца, як бачыш, мала.*
*Тут самой бы хаця схавацца,*
*Тут самой бы хаця*
*ўратавацца...*

*Агрызнулася госця ў злосці:*
*— Што ж, запомню я*
*гэтыя госці...*

*І пайшло, і пайшло*
*з той пары —*
*Цяжка ўжыцца ў адной ім*
*нары.*

*Не чуваць,*
*Каб маглі даравацца,*
*Разам бегалі паляваць.*

*Паасобку стараюцца быць —*
*Даўняй крыўды*
*Не могуць забыць.*



## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

*Даўно я да Цябе не пісала. Не расказвала Табе, як я правяла канікулы. А былі яны ў мяне вельмі цікавыя.*

*Два тыдні я правяла ў Балгарыі. Там шмат цікавага давялося пабачыць. Месяц была ў правенторыі ў Бацюках. Туды я езджу кожны год. Там было таксама вельмі добра: мы ездзілі ў Варшаву, хадзілі ў кіно, арганізавалі дыскатэкі. Было вельмі весела, нават не хацелася дадому ехаць. Два тыдні я правяла дома: дапамагала бабулі варыць абед і вучылася пячы пірагі. Адзін выйшаў такі смачны, што і сабакі не хацелі есці.*

*Цяпер я хаджу ўжо ў школу, у шосты клас. Бабуля мая цяпер вельмі бедная, бо ў яе кепска з вачамі — не можа чытаць, што яна вельмі любіла. Дык цяпер я ёй чытаю „Ніву" і „Зорку", і так у нас праходзіць час.*

*Цяпер я прастудзілася і не хаджу ў школу.*

*З вялікаю пашанаю да Цябе, „Зорка",*

**Аня Касабук**

**АД РЭДАКЦЫІ: Вельмі дзякую табе, Аня, за прыгожы камплект паштовак аб балгарскай Шыпчанскай эпапеі.**

(Працяг са стар. 9)

### ГАЛЁШ

— Вось і добра. Заўтра паўторыш нам новую канцэпцыю паходжання чорнай дзіркі, таму што, здаецца, не ўсе разабраліся... Ёсць яшчэ пытанні?

Вучні збянтэжана пераглянуліся.

— Ну, пачакай. Я табе пакажу галёш! — у роспачы прашаптаў Юрка свайму суседу.



### АДГАДАНКА

**Замалюй палі, азначаныя кропкай. Што выйшла?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

### РУЧНІКІ

(З рэпертуару „Песняроў")

Словы В. Вярбы
Музыка М. Пятрэнкі

У суботу Янка
Ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна
Мыла ручнікі.

— Пакажы, Алёна,
Броду земляку,
Дзе тут пераехаць
На кані раку?

— Адчапіся, хлопец,
Едзь абы-куды.
Не муці мне толькі
Чыстае вады.

— Любая Алёна,
Я ж вады баюсь.
Пацалуй спачатку,
Бо я утаплюсь.

Супыніўся гнеды
Пад вярбой густой.
Цалавала Янку
Лена над ракой.

Стала ціха, ціха
На усёй зямлі...
Па рацэ далёка
Ручнікі плылі.






З чаго смяюцца суседзі




Без слоў.

### ДАЎЖЫНЯ І ВЫШЫНЯ

У дзень выплаты доўга чакала мужа жонка. Урэшце гаспадар, хістаючыся, увайшоў на панадворак. Падыйшоўшы да тэлефоннага слупа, што ляжаў на панадворку, падняў яго, прыхіліў да даху хлява і, узяўшы метр, спрабаваў улезці на слуп. Але — дарма.

Урэшце жонка не стрымала:

— Чаго ты лезеш на той слуп?

— Хачу змерыць яго вышыню, — адказвае гаспадар.

— Дык хіба ты не мог змерыць, калі ён ляжаў на зямлі?!

— Вось дурная баба! То будзе даўжыня, а мне патрэбна вышыня!

### САКРЭТ ПЯШЧОТНАСЦІ

— Прыемна вельмі мне
зірнуць
На Васіля і Нату,
З якой пяшчотнасцю вядуць
Яны старога тату.
— Няма чаго здзіўляцца з іх.
Так робяць кожны раз,
Калі вядуць яго ўдваіх
У адну з ашчадных кас.

Уладзімір Мацвеенка





Камплімент людаеда: „У вас сёння вельмі смачны выгляд!"

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Вось які ты ўжо, унучак, вырас! А сарамлівы... Раней было пацалуеш мяне, а я табе на цукеркі чырвонца дам! Чаму б табе не пацалаваць мяне і зараз? — кажа бабуля ўнуку.
— А чырвонца дасце?
— На цукеркі?
— Якія цукеркі! На каньяк.

*

— Доктар, я ўсё забываю. Што мне рабіць?
— Хутка заплаціць мне за візіт.

*

Жонка сваёй маці:
— Не жадаю больш бачыць мужа! Ён мяне ўдарыў!
— Дык я думала, што твой муж у Парыжы?
— І я так думала, мама.

### ЎЗЯЎСЯ

У адной вёсцы нехта з сялян стаў курэй красці. А злавіць злодзея не ўдавалася.

Тады адзін стары дзядуля кажа:
— Я злаўлю злодзея, толькі прынясіце мне доўгую вяроўку.
Здзівіліся людзі, але вяроўку прынеслі. Вывеў дзед сялян на выган, раскінуў вяроўку і кажа:
— А цяпер усе бярыцеся за яе.
Пачакаў крыху і крычыць:
— Ну, усе ўзяліся?
— Усе! — крычаць сяляне.
— Ды ці ўсе? — зноў дзед.
— Усе! Усе!
— І той, хто курэй крадзе, узяўся?
— Узяўся! — адазваўся злодзей.

З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВАЕ Ў БЫТ

Шмат робіцца для аблягчэння быту гараджан у г. Дуяве.

Адна з апошніх навінак заключаецца ў тым, што кватэранаймальнікам, для таго каб адкрыць у ваннай гарачую ваду, неабавязкова круціць кран, а дастаткова выклікаць з адміністрацыі сантэхніка, і ён сваім гаечным ключом адкрые ваду.

### ПАМЯТКА ПРАДАЎШЧЫКУ

Прадаўшчык! Добранька ўзваж, перш чым пачаць абважваць пакупнікоў!



Без слоў.



— Апошні раз кажу: выплюньце свердзел!






### ПЕРШАЕ ВЫПРАБАВАННЕ

Англійская газета „Файненшл таймс" змясціла ліст, атрыманы агентам Сцюартам Райтсанам ад аднаго з яго кліентаў. У лісце пісалася: „З сумам вымушаны паведаміць Вам пра тое, што мой супрацьбомбавы і супрацьатамны бетонны бункер быў ушчэнт зруйнаваны хуліганамі".

### ДЗЯКУЮЧЫ ПАСАДЗЕ

Генерал Артуро-Дурасо — адзін з найбагатшых людзей Мексікі. Яго маёмасць перавышае 600 мільёнаў долараў. У абсталяваным у прыгарадзе Мехіка генеральскім гняздзе ёсць іпадром, казіно, пляцоўка для верталётаў.

Гэтае багацце генерал нажыў у значнай меры дзякуючы сваёй пасадзе — доўгія гады служыў ён начальнікам паліцыі мексіканскай сталіцы. Але не зарплата, як можна здагадацца, вывела яго ў лік найбольшых багацеяў краіны. Як выявіў у нядаўна выпушчанай кнізе яго намеснік, генерал выкарыстоўваў сваё службовае становішча, каб збіраць даходы ад гандлю наркотыкамі, кантрабанды, прастытуцыі.



Мала жыць сваім розумам, трэба яшчэ, каб аб гэтым не падазравала начальства.